І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове За май-2 2016

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну




**Матацыкліст з Гомельшчыны збіў ДАІшніка ў Мінску**

стар. 2

**У Гомелі кіроўца-бяспраўнік, які 41 раз парушаў ПДР, збіў жанчыну-пешахода**

стар. 3

**У светлагорскім храме знойдзены трупы двух мужчын**

стар. 5

# Школьнік з Прыбара прынёс дадому снарад часоў Другой сусветнай вайны

***У вёсцы Прыбар Гомельскага раёна 11-гадовы школьнік прынёс дадому артылерыйскі снарад часоў Другой сусветнай вайны.***

Хлопчык знайшоў яго ў меліярацыйнай канаве каля вёскі на мінулым тыдні падчас школьных вакацый, паведамілі ў абласным ўпраўленні МНС.

Бацькі хлопчыка аднеслі снарад ад дома і выклікалі аператыўныя службы. Група размініравання прыбыла ў вёску і канфіскавала снарад для ўтылізацыі.

У МНС адзначылі, што пры выяўленні боепрыпасаў або прадметаў, падобных на выбуховую прыладу, нельга дакранацца да іх, каб пазбегнуць выбуху, пра знаходку трэба неадкладна паведаміць у міліцыю ці МНС.

*БелаПАН*

# У Гомелі школьніка зацiснула і траўмавала эскалатарам

***У хірургічнае аддзяленне Гомельскай абласной клінічнай бальніцы было дастаўлена дзіця 2007 года нараджэння, якое атрымала траўмы ў адным з гандлёвых цэнтраў горада.***

Як паведамілі ў аддзеле інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Гомельскага аблвыканкама, хлопчык прыйшоў у гандлёвы цэнтр з мамай, і пакуль жанчына наведвала краму абутку, адпрасіўся ў яе схадзіць у краму цацак. Дзіця паехала на другі паверх на эскалатары, але арыгінальным спосабам — павісла на гумовым поручні, які рухаецца сінхронна з эскалатарам.

На другім паверсе хлопчык няўдала саскочыў з гумовага поручня, і быў зацiснуты эскалатарам. На месца здарэння прыбылі хуткая дапамога і міліцыя, школьніка шпіталізавалі з траўмамі.

Праверку па гэтым факце праводзіць інспекцыя па справах непаўналетніх.

*БелаПАН*

# Матацыкліст з Гомельшчыны збіў ДАІшніка ў Мінску

***Упраўленнем Следчага камітэта па Мінску распачатая крымінальная справа ў дачыненні да матацыкліста, які падазраецца ва ўчыненні дарожна-транспартнага здарэння, у якім пацярпеў 46-гадовы супрацоўнік Дзяржаўтаінспекцыі, паведаміў афіцыйны прадстаўнік УСК Аляксандр Герасімаў.***

Нагадаем, ДТЗ адбылося на скрыжаванні праспекта Незалежнасці, праспекта Машэрава і вуліцы Казлова.

Як паведаміў Герасімаў, на месцы здарэння праведзеныя першапачатковыя следчыя дзеянні, у тым ліку апытаныя відавочцы, канфіскаваныя і вывучаныя запісы камер відэаназірання. Паводле яго слоў, папярэдні аналіз наяўных у распараджэнні следства матэрыялаў дазваляе выказаць здагадку, што супрацоўнік міліцыі падышоў да матацыкліста, які стаяў на скрыжаванні, у сувязі з парушэннем ім правілаў дарожнага руху. Спрабуючы ўцячы, апошні пацягнуў за сабой інспектара на праезную частку, дзе на іх быў учынены наезд аўтамабілем інкасатарскай службы.

У выніку ДТЗ афіцэр і кіроўца атрымалі цялесныя пашкоджанні і шпіталізаваныя.

Стан супрацоўніка міліцыі ацэньваецца як цяжкі, ён знаходзіцца пад пастаянным наглядам медыцынскіх спецыялістаў.

Дзеянні 31-гадовага жыхара Гомельскай вобласці, які кіраваў матацыклам, кваліфікаваныя як злачынства, прадугледжанае ч. 2 арт. 317 КК (парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці прычыненне цяжкага цялеснага пашкоджання).

Падазраваны затрыманы, ён знаходзіцца ў медыцынскай установе, дзе выстаўлены пост аховы.

*БелаПАН*

КАЛГАСНЫ ЗМАГАР

Год выдання V

Орган Бягомльскага РК КП(б)Б і РВК

№ 30 (368) | Панядзелак 18 сакавіка 1935 года | Кошт асобнага нумара 5 кап.

# У Мазыры ў ДТЗ пацярпеў матацыкліст-бяспраўнік, які 17 разоў прыцягваўся за парушэнні ПДР

***У Мазыры адбылося ДТЗ з удзелам аўтамабіля «БМВ 316» і матацыкла «Сузукі».***

Як паведамілі ва УДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама, кіроўца «БМВ» 1957 года нараджэння, рухаючыся па вуліцы Міра, пры павароце на бульвар Юнацтва сутыкнуўся з матацыклам «Сузукі», які рухаўся насустрач. Матацыкл быў без нумарнога знака, ім кіраваў 29-гадовы мужчына, які пазбаўлены пасведчання вадзіцеля да 2023 за кіраванне транспартным сродкам у стане алкагольнага ап'янення, паўторна на працягу года. Усяго ён прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці за парушэнне правілаў дарожнага руху 17 разоў, з іх чатыры — за кіраванне транспартам у стане алкагольнага ап'янення.

У выніку здарэння кіроўца матацыкла атрымаў цялесныя пашкоджанні і быў шпіталізаваны ў бальніцу.

*БелаПАН*

# У Гомелі кіроўца-бяспраўнік, які 41 раз парушаў ПДР, збіў жанчыну-пешахода

***У Гомелі на вуліцы Гагарына 50-гадовы кіроўца, пазбаўлены пасведчання за кіраванне транспартам у стане алкагольнага ап'янення, на аўтамабілі «Нісан» пры павароце не прадаставіў перавагі і ўчыніў наезд на пешахода. 60-гадовая жанчына пераходзіла праезную частку дарогі па пазначаным пешаходным пераходзе.***

Як паведамілі БелаПАН ва УДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама, вадзіцель, не паведаміўшы аб тым, што здарылася, у міліцыю, адвёз пацярпелую дадому. Адчуўшы пагаршэнне стану здароўя, жанчына звярнулася ў бальніцу. Пасля аказання медыцынскай дапамогі яна была адпушчана дадому.

У выніку праведзеных аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў кіроўца быў устаноўлены. У яго налічваецца 41 парушэнне правілаў дарожнага руху.

У гэты ж дзень у Гомелі адбылося яшчэ адно ДТЗ з удзелам пешахода.

Вадзіцель «Пежо», рухаючыся па вуліцы Царыкава, не прадаставіў перавагі і ўчыніў наезд на пешахода 1960 года нараджэння, які пераходзіў праезную частку па нерэгуляваным пазначаным пешаходным пераходзе. Вадзіцель адвёз пацярпелага ва ўстанову аховы здароўя. Аб дарожна-транспартным здарэнні паведамілі відавочцы, патэлефанаваўшы на 102.

У выніку здарэння пешаход атрымаў цялесныя пашкоджанні і быў шпіталізаваны ў бальніцу хуткай дапамогі.

*БелаПАН*

## З тэрыторыі прадпрыемства ў Ашмянах за ноч скралі амаль тону саляркі. Адзін са злодзеяў быў з Гомельшчыны

***Пяцёра зламыснікаў за ноч вынеслі з тэрыторыі прадпрыемства ў Ашмянах амаль тону дызельнага паліва, паведамілі ў прэс-службе УУС Гродзенскага аблвыканкама.***

Чацвёра мясцовых і жыхар Гомельскай вобласці запрыкмецілі на стаянцы прадпрыемства два грузавыя аўтамабілі. На працягу ўсёй ночы яны пералазілі праз плот і злівалі з незакрытых бакаў паліва. Здабылі такім чынам амаль тону саляркі.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку вылічылі зламыснікаў. Адзін з іх, як высветлілася, раней быў судзімы за аналагічнае злачынства.

Распачатая крымінальная справа па ч.2 арт.205 КК (крадзеж, учынены паўторна або групай асоб). Санкцыя па гэтым артыкуле прадугледжвае да 4 гадоў пазбаўлення волі.

БелТА

# У Гомелі малады кіроўца збіў насмерць на пешаходным пераходзе дзвюх жанчын

***У Гомелі ў ДТЗ загінулі дзве жанчыны.***

Як паведамілі ва УДАІ УУС Гомельскага аблвыканкама, у 00.25 кіроўца 1991 года нараджэння на аўтамабілі «Міцубісі», рухаючыся па вуліцы Савецкай, на скрыжаванні з вуліцай Цімафеенкі не саступіў дарогу пешаходам, якія перасякалі праезную частку па пешаходным пераходзе.

У ДТЗ загінулі жанчыны 1959 і 1966 гадоў нараджэння. Кіроўца затрыманы.

БелаПАН

- Ніколі не адпускайце сваё. Трымайце яго ўсімі сіламі. Нават калі сілаў ужо зусім няма.
- Мне здаецца, табе ўжо хопіць. Аддай бутэльку.
- Не аддам

# Гомельская «Святлатэхніка» выпраўляе рабочых на 2 месяцы ў безаплатны адпачынак

***Гомельскае ўнітарнае прадпрыемства «Сьвятлатэхніка», дзе працуе 60 адсоткаў інвалідаў па зроку, на два месяцы выправіла сваіх рабочых у вымушаны адпачынак.***

Раней плацілі — цяпер па нулях

«У мінулым годзе нам хоць плацілі дзьве траціны тарыфу за падобныя кароткія адпачынкі. Цяпер два месяцы гуляем — і па нулях», — апавядае адзін з працаўнікоў прадпрыемства, які мае трэцюю групу інваліднасьці.

«Сьвятлатэхніка» выпускае розныя сьвяцільнікі для арганізацыяў і ўстановаў, электрашчытавое абсталяваньне, плястмасавыя сядзеньні для спартовых ды іншых аб'ектаў, садова-агародны інвэнтар. Сядзеньнямі гэтага прадпрыемства абсталяваны ня толькі Гомельскі лядовы палац, але й Чыжоўка-арэна ў Менску, стадыён ФК «БАТЭ» ў Барысаве ды шмат што яшчэ.

«У ранейшыя гады, калі дазвалялі фінансы, мы плацілі рабочым дзьве траціны заробку, — тлумачыў карэспандэнту БелаПАН дырэктар прадпрыемства «Сьвятлатэхніка» Сяргей Раманюк. — Цяпер такой магчымасьці ня маем. Я прасіў калектыў зразумець сытуацыю, пайсьці насустрач і пагадзіцца на двухмесячны перапынак без аплаты — у сакавіку й красавіку. Спадзяёмся выйграць тэндэр на аснашчэньне нацыянальнага футбольнага стадыёна ў Менску і ў траўні аднавіць працу».

Дырэктар дадае, што адпачынак на два месяцы не татальны. Калі заказы паступаюць, то паводле адмысловых распараджэньняў патрэбныя спэцыялісты выходзяць на працу — у Гомелі і ў Мазырскай філіі «Сьвятлатэхнікі». Цяпер, у прыватнасьці, працуе ўчастак сартаваньня мэтызаў для Рэчыцкага заводу, дзе занятыя пераважна інваліды па зроку. Частка рабочых выйшлі на ўчастак вырабу садова-агароднага інвэнтару.

«Скажу адкрыта, што мяне ў гэтай сытуацыі больш турбуюць не інваліды, а здаровыя чальцы калектыву. Інваліды атрымліваюць хоць якую дапамогу ад дзяржавы з прычыны свайго фізычнага стану здароўя. Усе ж астатнія такой падтрымкі ня маюць — а гэта больш як паўтары сотні чалавек», — кажа дырэктар.




Сьвятлодыёды зацьмілі «Сьвятлатэхніку»

Фінансавыя цяжкасьці ў прадпрыемства пачаліся, калі асноўны спажывец разнастайных сьвяцільнікаў, суседняя Расея, стаў адмаўляцца ад гомельскай прадукцыі. Да таго ж расейскі рынак стаў запаўняцца энэргазьберагальнымі сьвятлодыёднымі сьвяцільнікамі, зь якімі «Сьвятлатэхніка» канкураваць ня можа.

Ранейшыя кіраўнікі прадпрыемства, каб утрымацца на паверхні, бралі крэдыты і выпускалі прадукцыю, якая не заўсёды была запатрабаваная на рынку. Новаму кіраўніцтву дасталася 11-мільярдная запазычанасьць прадпрыемства па банкаўскіх крэдытах, якую за апошнія два гады ўдалося скараціць да 6 мільярдаў.

Разгрузіцца часткова ад запасаў дапамаглі «Сьвятлатэхніцы» мясцовыя ўлады, мэтава закупіўшы сьвяцільнікаў для арганізацыяў і ўстановаў рэгіёну на 5,6 млрд рублёў. Каля паўмільярда рублёў спрабуе вярнуць прадпрыемства за пастаўленую прадукцыю праз пазовы ў эканамічны суд

«Нейкая «зорка» яшчэ сьвеціць над прадпрыемствам, — лічыць Сяргей Раманюк. — У

іншым выпадку мы б маглі закрыцца яшчэ летась, а то й раней. Паколькі на прадпрыемстве з чатырохсот працаўнікоў бальшыню складаюць інваліды, то было б правільным, каб улады разьвівалі з такімі прадпрыемствамі сацыяльнае партнэрства. Каб для такіх прадпрыемстваў былі пэўныя дзяржаўныя заказы. Заробкі ў нас невялікія, але мы ўсё ж такі падтрымліваем значную частку інвалідаў 3 групы, якім складана выжываць толькі на дзяржаўную дапамогу».

Рабочыя «Сьвятлатэхнікі», дарэчы, сёлета зьвярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі з адмысловым лістом наконт укараненьня ў краіне такога сацыяльнага партнэрства з спэцыфічнымі прадпрыемствамі. З Адміністрацыі прэзыдэнта ліст працаўнікоў пераслалі ў Гомельскі аблвыканкам, а адтуль — у адміністрацыю Чыгуначнага раёну Гомеля.

Надзея — на менскі футбольны стадыён

Аднаўленьне працы ў траўні кіраўнікі «Сьвятлатэхнікі» зьвязваюць найперш з атрыманьнем заказу на выраб 25 тысяч плястмасавых сядзеньняў для нацыянальнага футбольнага стадыёну ў Менску. Кошт заказу — 28 мільярдаў рублёў. Гэта на цэлыя 3 мільярды больш, чым гадавы выраб прадукцыі «Сьвятлатэхнікі».

Адна толькі акалічнасьць туманіць такую пэрспэктыву. Нацыянальны стадыён вырашылі будаваць не на месцы сёньняшняга стадыёну «Дынама» і ня ў Шчомысьліцы, як меркавалася раней, а каля стадыёну «Трактар». Заказчыкам новага амбітнага праекту коштам 95 мільёнаў даляраў выступілі бізнэсовец Юры Чыж, Менгарвыканкам і Беларуская фэдэрацыя футболу. Але ж вядома, што бізнэсовец Чыж апынуўся за кратамі, і пэрспэктыва будоўлі футбольнага стадыёну цяпер пад вялікім пытаньнем. Гэтаксама як і пэрспэктыва плённай працы «Сьвятлатэхнікі» пасьля вымушанага двухмесячнага адпачынку.

*Радыё «Свабода»*

## Міліцыя затрымала эксгібіцыяніста, які напалохаў 8-гадовую дзяўчынку

***Супрацоўнікі Чыгуначнага РАУС Гомеля затрымалі 43-гадовага эксгібіцыяніста, паведамілі ў прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама.***

Упершыню жыхаркі мікрараёна «Гомсельмаш» абласнога цэнтра звярнуліся ў міліцыю з скаргамі на хулігана 4 сакавіка. З іх слоў стала вядома, што падазроны мужчына рэгулярна наведваўся ў прыватны сектар, чакаў адзінокіх дзяўчат і дэманстраваў ім свае геніталіі. Яны таксама паведамілі, што адной з ахвяраў стала 8-гадовае дзіця. «Неяк вярталася з крамы і заўважыла маленькую дзяўчынку, якая плакала. Аказалася, што школьніца спалохалася мужчыну з расшпіленай шырынкай. Стала распытваць суседзяў па вуліцы і высветліла, што яго бачылі і іншыя», — распавяла адна з жанчын.

Супрацоўнікі аддзела крымінальнага вышуку Чыгуначнага РАУС неадкладна прыступілі да пошукаў хулігана. 21 сакавіка незнаёмец зноў з'явіўся ў прыватным сектары мікрараёна. Заўважыўшы яго, жанчына адразу ж выклікала міліцыянтаў, якія аператыўна затрымалі хулігана. Ім аказаўся 43-гадовы жыхар Гомеля, раней судзімы за крадзеж і разбой.

У дачыненні да падазраванага распачата крымінальная справа па ч.1 арт.339 (хуліганства) КК. За наўмысныя дзеянні, якія груба парушаюць грамадскі парадак і выказваюць відавочную непавагу да грамадства, мужчыне пагражае да трох гадоў пазбаўлення волі.

*БелТА*

## У светлагорскім храме знойдзены трупы двух мужчын

***Два трупы знайшлі ў Петрапаўлаўскім храме, размешчаным на вуліцы Авіяцыйнай раённага цэнтра.***

Паводле папярэдніх дадзеных, загінулыя — рабочыя з Гомеля. Іх запрасілі ў царкву для правядзення рамонтных прац. Тут жа, у храме яны і начавалі. Раніцай іх абодвух знайшлі мёртвымі.

У раённым аддзеле Следчага камітэта распавялі, што прыкмет гвалтоўнай смерці на целах 31- і 34-гадовага мужчын выяўлена не было. Праводзяцца следчыя дзеянні па ўстанаўленні прычыны смерці загінулых.

*news.tut.by*

- Дзень добры! Гэта клуб загадкавых людзей?
- Хто ведае, мой сябра, хто ведае...

# На Гомельшчыне нявесты едуць адразу з ЗАГСа ў раддом — ад рэгістрацыі шлюбу да нараджэння дзіцяці ў сярэднім праходзіць 1 месяц

***Пяць незвычайных статыстычных гісторый і тэндэнцый за 2015 год.***

Белстат апублікаваў дадзеныя аб узросце ўступлення ў шлюбы і нараджэння дзяцей у Беларусі за 2015 год.

Прааналізаваўшы статыстычныя звесткі, можна адсачыць сярэднестатыстычны жыццёвы шлях беларуса і беларускі.

Пратэстанцкае вяселле ў Альшанах, Брэсцкая вобласць. Фота Сяргея Гудзіліна.

Першы шлюб

Беларуская жанчына першы раз ідзе ў ЗАГС ў сярэднім у 25,5 года.

У вёсках нявесты звычайна на паўгода маладзейшыя. Што да рэгіянальных адметнасцяў, то берасцейкі і гарадзенкі бяруць шлюб на год раней за сярэднюю лічбу, а мінчанкі — на год пазней.

Яе абранніку 27,5 года.

І ў вёсках, і ў гарадах лічба амаль нязменная, узрост адрозніваецца ўсяго на месяц. Рэгіянальныя традыцыі захоўваюцца — заходняя Беларусь рэгіструе адносіны раней, сталічныя жаніхі марудзяць.

Першае дзіця

Наколькі адрозніваецца ўзрост заключэння шлюбу і ўзрост нараджэння першага дзіцяці?

Часам гэтыя лічбы не звязаныя між сабой, бо некаторыя дзеці нараджаюцца па-за шлюбам. Але ў большасці выпадкаў (80—85%) дзеці нараджаюцца ў поўных сем'ях.

У сярэднім праз паўгода пасля заключэння шлюбу ў маладых сем'ях нараджаецца першае дзіця — маці ў гэты час роўна 26 гадоў.




Але гэта як сярэдняя тэмпература па бальніцы — настолькі адрозніваецца сітуацыя па рэгіёнах.

У кансерватыўных Брэстчыне і Гродзеншчыне паміж шлюбам і нараджэннем дзіцяці праходзіць 10—11 месяцаў.

На Міншчыне лічба складае 6 месяцаў, на Віцебшчыне — 3,6 месяца.

А вось на Гомельшчыне і Магілёўшчыне нявесты часцяком едуць адразу з ЗАГСа ў раддом — ад рэгістрацыі першага шлюбу да нараджэння першага дзіцяці ў сярэднім праходзіць месяц.

І толькі мінчукі нікуды не спяшаюцца — да нараджэння першага дзіцяці праходзіць каля 15 месяцаў.

Чарговыя папаўненні

Калі бацькі плануюць папаўненне сям'і, то другое дзіця нараджаецца прыблізна праз два-тры гады пасля першынца.

Трэцяе і чацвёртае дзіця паспявае нарадзіцца, калі маці 30-34 гады (часцяком гэта ўжо іншы шлюб). Да саракагадовага ўзросту з'яўляюцца на свет пятае і шостае дзіця. Але такія выпадкі, зразумела, вельмі рэдкія.

Развод

Другі распаўсюджаны шлях разгортвання сітуацыі — развод.

Па стане на мінулы год на кожныя пяць шлюбаў рэгістраваліся два разводы. Найпрацей расстаюцца са сваімі абраннікамі ў Мінску, найменш разводзяцца зноў жа берасцейцы і гарад-

зенцы.

Белстат прыводзіць дадзеныя аб разведзеных парах толькі ва ўзроставым дыяпазоне. Калі перанесці гэтыя лічбы на графікі, атрымаецца, што сярэдні ўзрост разводу для жанчын складае каля 28 гадоў, а мужчын — каля 31 года.

Паўторны шлюб

Калі беларусы і рашаюцца на другі шлюб, то ідуць у ЗАГС даволі хутка.

Найбольшай долі мужчын, якія ўзялі шлюб пасля развода, — каля 33 гадоў.

Жанчыны ж бяруць трохі больш часу на роздумы. На рэгістрацыю другога шлюбу яны прыходзяць у сярэднім у 31 год.

Варыянт, калі беларусы заключаюць шлюб пасля смерці першага спадарожніка жыцця, не ўплываюць на агульную карціну — такіх выпадкаў было ўсяго каля 3% ад усіх шлюбаў.

Пяць незвычайных статыстычных гісторый і тэндэнцый за 2015 год

1. Жыхарка Брэсцкай вобласці да наступлення 18 гадоў паспела выйсці замуж, развесціся і зноў пабрацца шлюбам.

2. 7% шлюбаў, зарэгістраваных летась, былі паміж грамадзянамі Беларусі і замежнікамі. Варыянтаў «замежнік+замежніца» налічылася каля 300, сярод іх 28 выпадкаў шлюбаў паміж рускімі і ўкраінцамі.

3. У гарадах анулююць шлюбы ўдвая часцей, чым у вёсках.

4. Жанчыны ў 5,5 разу радзей за мужчын сканчвалі жыццё самагубствам — 268 супраць 1449.

5. Летась у ЗАГСах краіны налічылі 90 непаўналетніх жаніхоў і 767 непаўналетніх нявест.

*Ягор Марціновіч*

# На Гомельшчыне на 100 родаў прыходзіцца 34 аборты

***Пры гэтым на Брэстчыне колькасць абортаў падскочыла на 27%.***

Белстат апублікаваў дадзеныя па зробленых абортах – за мінулы год іх было зроблена 29 217. Паводле статыстыкі, колькасць абортаў працягвае павольна скарачацца.

Ёсць некалькі методык падліку. Белстат абраў колькасць абортаў на 100 родаў. Такім чынам, калі ў 2014 годзе на 100 радоў налічвалася 25,3 аборта, то летась – 24,7 аборта.

Розніца па рэгіёнах застаецца велізарная – глядзі табліцу.

Колькасць абортаў на 100 родаў (у дужках дынаміка за год)

1. Міншчына – 15 (-0,6)

2. Брэстчына – 19,2 (+4,1)

3. Гродзеншчына – 19,5 (-2,3)

4. Магілёўшчына – 23,3 (-2,5)

5. Мінск – 27,5 (+0,2)

6. Віцебшчына – 33,4 (-2,5)

7. Гомельшчына – 34,1 (-2,5).

Звяртае на сябе ўвагу той факт, што колькасць абортаў вырасла толькі ў Мінску і Брэстчыне.

Калі ў 2014 годзе ў Брэсцкай вобласці было зафіксавана 2673 абортаў, то летась – 3398 абортаў.

* * *

Другая методыка паказвае долю абортаў ад агульнай колькасці цяжарнасцяў. У Беларусі гэты паказчык упершыню апусціўся ніжэй за мяжу 20%.

*nn.by*

# Грамадзянін Емена атрымаў год за распусныя дзеянні ў дачыненні да гомельскіх школьніц

***Грамадзянін Емена, доктар адной з медыцынскіх устаноў Гомеля, прысуджаны да года пазбаўлення волі за распусныя дзеянні ў адносінах да дзвюх школьніц. Пра гэта паведаміла старшы памочнік пракурора Гомеля Алена Канаваленка.***

Дадзенае рашэнне прыняў суд Чыгуначнага раёна горада па ч.1 ст.169 КК. Паводле матэрыялаў следства, 50-гадовы мужчына з балкона кватэры ў Гомелі паклікаў да сябе двух дзяўчынак — 2002 і 2005 гадоў нараджэння. Пасля гэтага зняў штаны і здзейсніў распусныя дзеянні. Іншаземец прапанаваў дзяўчынкам узнагароджанне за прагляд такога «кіно».

Падсудны сваю віну поўнасцю адмаўляе, называючы паказанні дзяцей агаворам. У той жа час адна школьніца прызналася, што і раней іншаземец чапляўся да яе з непрыстойнасцямі. Праўда, яна баялася расказаць пра гэта бацькам.

Прысуд пакуль не набыў законную сілу, абвінавачаны яго абскардзіў.

БелТА

## У Рэчыцкім раёне раварыстка ўпала пад колы гружанага лесам МАЗа

***ДТЗ адбылося пад Рэчыцай днём на дарозе Пад'езд ад вёскі Чорнае да дарогі Гомель - Кобрын.***

Гружаны лесам МАЗ ехаў у бок дарогі М10. У спадарожным кірунку па правым краі праезнай часткі ехалі два раварысты, муж і жонка — жыхары вёскі Копань.

Паводле папярэдняй інфармацыі, жанчына не справілася з кіраваннем роварам і ўпала пад заднюю вось прычэпа. Ад атрыманых траўмаў яна памерла на месцы.

*news.tut.by*

АГУРКІ З МЁДАМ

АГУРКІ

СВЕЖЫЯ, САЛЁНЫЯ АБО МАЛАСОЛЬНЫЯ

МЁД

ПАДАВАЦЬ З ЖЫТНІМ ХЛЕБАМ

УСЕ СУВЕНІРЫ НА ARTSOUVENIRS.BY

МАЛЯВАЛА КСЕНІЯ КАЧАВАНАВА

ПРОСТАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЕЖА

Hiтki

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі за май-2 2016»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA